Цана асобнага нумару 1500 м. п.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **18.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 3500 мк., сярод тэксту 3000 м. і на 4 стр. 2500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

**№ 9** — **Серада, 4-га ліпня 1923 г.** — **Год I.**

## Польшча і С. С. С. Р.

Англія пагадзілася з С.С.С.Р. на грунце эканамічных канцэсій...

Амэрыканскі сэнатар Бозі аб'яжджае Паволжа ў сувязі з амэрыканскімі плянамі эканамічнага характару на тэрыторыі С.С.С.Р.

Прадстаўнік групы францускіх капіталістаў, які езьдзіў у С.С.С.Р., вярнуўся ў Парыж з цэлай жменяй праектаў...

А нямецкія тавары даўно ўжо знайшлі шырокі збыт у С.С.С.Р.!

Такія весткі чытаем мы бадай кожын дзень у газэтах.

Весткі гэтыя паказываюць, што вялікія капіталістычныя гаспадарствы, якія з даўных часоў вялі абшырныя гандлёвыя зносіны з старой Расеяй, стараюцца дзеля добра зразумела ўласнае карысьці аднавіць гэныя зносіны з Саюзам Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік, у які ператварылася колішняя імпэрыя маскоўскіх цароў.

Калі прыпомнім, што ў старыя часы — да сусьветнае вайны — так-званыя „прывісленскія губерніі“ з сваей высока разьвітай прамысловасьцяй жылі цалком гандлем з самымі нават далёкімі часьцінамі Расейскае дзяржавы, калі палічым, скольк тавараў з польскіх фрабрык вандравала ажно ў Сібір, Туркестан, на Каўказ і г. д., — дык само сабой узьнімецца пытаньне: няўжо-ж гаспадарчыя пэрспэктывы сучаснае незалежнае Польшчы гэтак зьмяніліся, што ўсходнія рынкі збыту перасталі яе цікавіць?

Такое пытаньне — вельмі на часе: бо пад той час, як Нямеччына, Францыя, Англія, Амэрыка і др. ўжо наладжваюць тарговыя зносіны з С.С.С.Р., аб дзейнасьці Польшчы на Усходзе мы чуем адно толькі такія весткі, як, прыкладам, прывоз з Масквы вывезеных туды царскім урадам званоў, як пратэсты і сваркі з прычыны перасьледаваньня ў С.С.С.Р. духавенства і г. п.

Ня гледзячы на тое, што Польшча граніцыць з Сацыялістычнымі Савецкімі Рэспублікамі на працягу каля тысячы вёрст, аб ажыўленьні зносін з С.С.С.Р. неяк нічога ня чутно. І папасьці з Вільні ў Менск або наадварот гэтак сама цяжка, як вярблюду прайсьці цераз вушка іголкі...

Ведама, ад гэтага вельмі церпяць перш за ўсё беларусы, а так сама украінцы, бо гэтыя два народы аказаліся падзеленымі на часткі гранічнымі межамі. Але церпіць і сама Польшча — і трэба думаць — у будучыні будзе цярпець яшчэ больш.

Церпіць і будуць цярпець **эканамічныя інтарэсы Польшчы.** Ужо ёсьць трывожныя знакі гэтага.

Мы маем на думцы вельмі цікавую перадавую стацьцю ў лейб-органе эндэцыі „Gazeta Warszawska“, напісаную з прычыны спадзяванага **вугальнага крызісу.**

Газэта у № 176 піша:

„Польшча сталася гаспадарствам, якое мае лішак вугальля і павінна шукаць для яго рынкаў збыту.

„Кракаўскія і Дамброўскія капальні ў 1922 годзе далі 7 міліёнаў тонн, а Шлёнск — звыш 23 міліёнаў. Цыфры красамоўныя. З гэнага шлёнскага вгуальля мы вывезьлі ў Нямеччыну 12 міліёнаў тонн. Аднак, трэба заўважаць, што немцы робяць энэргічныя захады, каб стацца незалежнымі ад нашага вугальля. Калі справа Рура будзе ўладжана, — а некалі-ж гэта павінна стацца, — дык Шлёнск будзе прымушаны шукаць другіх рынкаў збыту.

„На які-ж рынак мы можам спадзявацца?“ — пытаецца газэта. І дае адказ: на свой уласны, унутраны рынак.

Адказ быў-бы дужа ўдачны, калі-б істнавала надзея на разьвіцьцё польскае прамысловасьці да такое вышыні, каб яна магла спажыткаваць усе гэныя 30 міліёнаў тонн вугальля ў сваіх фабрыках. Але для такое надзеі пры сучасным курсе польскае палітыкі месца няма. І вось чаму.

Каб прамысловасьць у Польшчы магла разьвівацца, трэба, каб Польшча мела рынкі збыту. Толькі зусім наіўныя людзі могуць думаць, быццам маладая польская прамысловасьць здолее выдзяржаць на заходніх і палудзенных рынках Эўропы канкурэнцыю старых прамысловых краін. Адзіным даступным для Польшчы рынкам можа быць толькі Усход — Савецкія Рэспублікі: Беларуская, Украінская, Расейская, Каўкаскія, а праз іх — і далейшыя краіны Усходу. Тут Польшча можа мець перавагу над канкурэнтамі **дзякуючы сваей сумежнасьці з С.С.С.Р.**

Але ў гэты бок Польшча ня йдзе. Дзеля наладжаньня правільных гандлёвых зносін нельга ставіць іх у такія рамкі, як гэта робіцца цяпер: у пагранічныя мястэчкі прыяжджаюць пад паліцэйскім канвоем „чырвоныя“ купцы, ды гэтым усё абмяжована. На такім гандлю нічога сур'ёзнага Польшча ня збудуе і ня здолее канкураваць перш за ўсё з Нямеччынай, якая ўжо забівае пагранічны гандаль Польшчы з „чырвонымі“ купцамі, наладзіўшы шырокі збыт сваіх тавараў у С.С.С.Р. на зусім нармальных асновах.

**Нармальныя адносіны з С.С.С.Р** — першы варунак дзеля выкарыстаньня Польшчай адзінае магчымасьці забясьпечыць будучыну для свайго гандлю і, значыцца, для сваей прамысловасьці. У гэты бок і павінна быць пакіравана польская палітыка.

Паўтараем: у нармальных адносінах з С.С.С.Р. зацікаўлены ў роўнай меры беларусы і украінцы, як і сама Польшча. Для нас гэта магчымасьць стварэньня гэтак патрэбнага нам адзінага нацыянальнага культурнага фронту. Для Польшчы — справа эканамічнага развіцьця і дабрабыту народных масаў.

**К. Фалькевіч.**

## Да падпішчыкаў.

З прычыны падаражаньня паперы і друку газэты, цана асобнага нумару з 1-га ліпня павялічана да 1500 м. Просім падпішчыкаў унясьці даплату.

**Адміністрацыя.**

## Палітычныя падзеі.

### Японія і С. С. С. Р.

Паміж японскім і савецкім урадамі распачаліся беспасрэдныя перагаворы аб урэгуляваньні адносін і спорных пытаньняў. Японія, якая першаю выступіла на шлях аружнай інтэрвэнцыі пасьля падзей 1917-18 г. г., спадзяючыся ўмацавацца ў Сібіры, пераканалася, што гэты шлях не дасьць пажаданых вынікаў. Галоўнаю прычынаю гэтага зьяўляецца ўмацаваньне савецкай улады, палажыўшай канец імпэрыялістычным тэндэнцыям магутнейшай дзяржавы Азіі. З другога боку на гэты крок папхнулі Японію і рад эканамічных і палітычных прычын.

Японія — край з моцна — разьвітай прамысловасьцю, патрабуючай вялікіх рынкаў для сваіх тавараў. Адносіны паміж Кітаем і Японіяй у апошнія часы дужа папсаваліся, і кітайскі рынак, які перш быў галоўным рынкам для японскіх тавараў, цяпер бадай што ня істнуе. Так-сама ня могуць здаволіць Японію і другія рынкі, як Індыя, Інда-Кітай, Аўстралія, якія знаходзяцца ў эканамічнай залежнасьці ад Англіі і Францыі.

Зразумела, што ўвагу японцаў прыкоўвае Сібір, дзе няма сваей прамысловасьці, а дастаўка з Захаду, дзякуючы дрэнным шляхам і слабасьці прамысловасьці ў Савецкіх Рэспубліках, надта слабая. У Сібіры-ж Японія можа атрымаць і патрэбнае ёй сыр'ё як лес, руду, рыбу і інш. Але каб мець для сваіх тавараў сібірскі рынак, Японія павінна наладзіць добрыя адносіны з Савецкімі Рэспублікамі.

Асаблівую вагу маюць і палітычныя прычыны. Японія і Злучаныя Штаты вядуць моцнае змаганьне, каб мець перавагу на Ціхім акіяне. Пад націскам Амэрыкі англа-японскі саюз, тэрмін якога ўжо скончыўся, не адноўлены, і Японія застаецца адна, маючы навакола варожых суседзей. Вось дзеля чаго Японіі важна мець добрыя адносіны з Савецкімі Рэспублікамі, каб мець забясьпечаным тыл на выпадак вайны з Амэрыкай.

Істнуе яшчэ адна прычына, якая змусіла японскі ўрад шукаць паразуменьня з Саветамі: гэта становішча японскіх рабочых, якія ўвесь час дамагаліся прызнаньня савецкага ўраду. Рэвалюцыйныя настроі, згодна час ад часу зьяўляючыхся вестак у эўрапейскай прэсе, надта моцны і з голасам японскага пралетарыяту японскі ўрад змушаны быў лічыцца.

Усе гэтыя прычыны і змусілі Японію шукаць паразуменьня і наладжаньня ўзаемаадносін з Саюзам Сацыялістычных Рэспублік.

### Польшча.

Міністр фінансаў Ул. Грабскі з прычыны разьбежнасьці паглядаў на палітыку сучаснага кабінэту і дзеля таго, што ўрадовая большасьць у Сойме не дае выстарчаючага падтрыманьня ягонай фінансавай праграмы падаўся ў адстаўку. Адстаўка прынята. Міністрам фінансаў назначаны Губэрт Ліндэ.

---

У жалезна-дарожных дырэкцыях Станіслаўскай, Львоўскай і Кракаўскай распачалася забастоўка. Забастоўка ня толькі не слабее, але пашыраецца: далу-

чаюцца новыя станцыі і новыя катэгорыі рабочых. Беспасрэднай прычынай забастоўкі зьяўляецца пастанова Рады Міністраў, прызнаючая дзяржаўным служачым толькі 28 прац. дадатку на дарагоўлю ў той час, калі цэны на прадукты першай патрэбы падскочылі на 100 прац., а часам і больш. Учасьце ў забастоўцы бяруць усе жал.-дар. арганізацыі бяз розьніцы палітычных паглядаў.

У чацьвер у Львове адбыўся вялікі мітынг ж.-д. работнікаў. Пасол Курыловіч паінфармаваў аб канфэрэнцыі з урадовым дэлегатам Врублем, які ня даў ніякага канкрэтнага адказу, а толькі прапанаваў у імя патрыятычнага пачуцьця—асабліва... з прычыны прысутнасьці ў Польшчы румынскага караля, вярнуцца да працы, а ўрад па выясьненьні дарагоўлі дасьць падбаўку каля 10 ліпеня.

У Львове заместа забаставаўшых работнікаў працуе войска. Дзеля нядатнасьці да гэтай работы вынікаюць вялікія страты для дзяржавы. Так-сама затрыманы ў Львове аддзел рэзэрвістаў, закончыўшых ужо муштру. Частка іх так-сама будзе выкарыстнна для работы.

---

29 і 30 чэрвеня ў Варшаве адбыліся нарады Галоўнай Рады P.P.S. Аб палітычнай сітуацыі прынята рэзалюцыя, адабраючая палітыку партыі адносна ўраду Хіены-Пяста, які кваліфікуецца, як урад, маючы на мэце ўмацаваньне ў Польшчы панаваньня заможных клясаў, барацьбы з дэмакрацыяй і сацыялізмам, а так-сама прасьледаваньня нацыянальных меншасьцей.

## С. С. С. Р.

На імя пракурора Сав. Рэспублік патрыярх Ціхан падаў афіцыяльную заяву, у якой выракаецца свае контр-рэвалюцыйнай дзейнасьці ў мінуўшчыне і заяўляе аб сваіх лёяльных адносінах да савецкай улады. Суд пастанавіў звольвіць Ціхана з вастрогу,

„Rosta“ цаведамляе, што ў размове з яе карэспандэнтам патр. Ціхан заявіў, што ў часе арышту з ім абходзіліся добра. Ён цалком стаў на савецкую плятформу і лічыць, што цэркаў павінна быць апалітычнай. Ціхан не прызнае пастановы Сабора аб пазбаўленьні яго патрыяршага сана.

---

Адкрылася другая сэсыя В.Ц.И.К.-а. На парадку дня перавыбары Совнаркома Р.С.Ф.С.Р. у сувязі з утварэньнем агульна-саюзнай Рады Народных Камісараў. Сэсія разглядае папраўкі і дадаткі да падлягаючага ратыфікацыі саюзнай умовы, якая зроблена на першым зьезьдзе саветаў С.С.С.Р. Умова устанаўляе агульныя камісарыяты заграчічных спраў, ваеннага, замежнага гандлю, дарог і почт для ўсяго Саюзу; рэшта камісарыятаў у кожнай рэспубліцы будзе самастойная. Орган вышэйшай улады—Зьезд Саветаў С,С.С.Р., паміж Зьездамі—Саюзны Цэнтр. Выкан. Камітэт. Згодна з праектам саюзны Ц.В.К. складаецца з Саюзнага Савету, які выбіраецца Зьездам Саветаў С.С.С.Р. прапарцыянальна насяленьню саюзных рэспублік, і Савета нацыянальнасьцей, пры гэтым з сябраў Ц.В.К. выбіраецца Саюзным Саветам 7 і Саветам нацыянальнасьцей 7, на супольным паседжаньні абодвых.

---

У Уладзівастоку падпісаны дагавор з японскімі рыба-прамыслоўцамі аб арэндзе рыбнай прамысловасьці на Далёка-ўсходнім пабярэжжы. Гэта першы праўны акт паміж С.С.С.Р. і Японіяй. Японія дала абавязак выплаціць да жніўня ўсе нядоімкі за карыстаньне ў часе інтэрвэнцыі і акупацыі Далёкага Ўсходу; ўжо выплачана больш 2 мільёнаў зал. руб.

## Францыя.

У дэпартамэнце Сэны і Уазы адбыліся дадатковыя выбары двух паслоў у палату дэпутатаў, заместа памёршых. Гэты дэпартамэнт быў да гэтага часу гняздом рэакцыйнага „Нацыянальнага Блёку“. Пры цяперашніх-жа выбарах кандыдаты „Нац. Бкёку“ атрымалі штат менш галасоў і трэба спадзявацпа, што пройдуць радыкальныя сацыялісты. Характэрна, што камуністычныя дэпутаты атрымалі 42.000 галасоў, тады як сацыялісты толькі 9.000 гал.

Палата дэпутатаў 457 галасамі проціў 93 зацьвярдзіла бюджэт на 1923 г. Ня гледзячы на пратэст сацыяпістаў і радык. сацыялістаў ухвалена, што гэты бюджэт мае сілу і на 1924 г. Гэткая дзіўная пастанова не практыкавалася ніколі ў парлямэнцкім жыцьці ніводнай дзяржавы.

## Англія.

На канфэрэнцыі работніцкай партыі прынята рэзалюцыя Макданальда, якая пратэстуе проціў акупацыі Рурскага Басэйну і адначасна дамагаецца перагавораў аб прызнаньні савецкага ўраду. Аднагалосна прнята рэзалюцыя, прызываючая паслоў ад работніцкай партыі, каб спраціўляліся павялічэньню ангельскага паветранага флёту.

На канфэрэнцыі адзначаны ўзрост работніцкай партыі; адзін з дэлегатаў заявіў, што, калі сілы партыі будуць павялічывацца ў такім разьмеры як дагэтуль, дык у 1926 г. трэба спадзявацца, што ўлада пяройдзе да работніцкай партыі. Лідэрам партыі выбраны Макданальд.

## Нямеччына.

Паміж станцыямі Дюсбург і Гохфэльдэм узорваны жал.-дар. мост на Рэйне ў той час, калі праз яго праходзіў цягнік з бельгійскімі акупацыйнымі жаўнерамі. Забіта 60 чалавек.

## Японія.

У Токіо адбываюцца паседжаньні прадстаўнікоў Сав. Рэспублік і Японіі, абгаварываюцца падставы, на якіх маюць распачацца падгатаваўчыя нарады, каб распачаць японска-савецкую канфэрэнцыю. Саветы прадстаўляе Іоффэ, Японію быўшы пасол у Варшаве Кавакамі. У памешканьні Іоффэ адбылося паседжаньне ў справе Сахаліна.

## Літва.

З Коўні паведамляюць, што ўтварыўся новы кабінэт. Старшынёю міністраў і міністрам заграчічных спраў зноў застаўся Гальванаўскас.

## Гданск.

Пельскія газэты паведамляюць, што да Гданску прыежджаюць быўшыя генаралы і афіцэры з Усходняй Прусіі і адбываюць тайныя нарады з б. вайсковымі, пражываючымі ў Гданску.

# З газэт.

### „Урад міру“.

„Земля і Воля“, абгаварываючы заграчічную палітыку новага польскага ўраду, піша:

„Ці ў запраўднасьці польская эндэцыя ёсьць больш мірнаю і менш імпэрыялістычнаю, чым бэльвэдэрска-пэпэсоўскае дробнамяшчанства? Не! Аднак паміж гэтымі лягерамі істнуе тая розьніца, што правіца прадстаўляе лягер багачоў, якія маюць што утраціць, бо вайна пагражае Польшчы ня толькі пагромам на полі бітвы, але і сацыяльнаю катастрофаю. Вось-жа ім ня надта й хочацца пачынаць вайну на ўласную руку, але каб прышоў загад з Парыжу дык цяперашнія польскія „міралюбцы“ з правіцы не завагаліся-б ні на адзін момант зрабіць напад на Савецкія Рэспублікі. Але Францыя цяпер занята барацьбой з Нямеччынай і скіроўвае на Рур усе свае сілы і „палітычны розум“ і хоча, каб Польшча была на пагатове ня проці Савецкіх Рэспублік, а проці Нямеччыны... Зусім у іншым палажэньні бэльвэдэрскія партыі. Як партыі дробнамяшчанскія яны нічога ня маюць утраціць, апрача... жыцьця мільёнаў работнікаў і сялян. Вось-жа яны й гатовы да вайны кожнага дня і кожнай гадзіны“.



Як бачым, палітыка ўрадаў, якія падтрымоўвала ўвесь час „левіца“ з P. P. S. на чале, прычынілася да таго, што нават палітыку рэакцыйнага ўраду трэба лічыць больш мірнай і менш імпэрыялістычнай.

Пекна выглядзіць P. P. S., належачая да Сацыялістычнага Інтэрнацыяналу, які, якбы ні было, прыняў рэзалюцыі, заклікаючыя да змаганьня проціў імпэрыялістычных імкненьняў і пагрозаў міру.

# З Польскага Сойму.

На перадапошнім паседжаньні Сойму прынята устава аб амнэстыі з прычыны прызнаньня ўсходніх граніц Польшчы. Прыводзім у скарочаньні важнейшыя артыкулы гэтай уставы:

Арт. 1 уставы кажа, што амнэстыі падлягаюць праступленьні, зробленыя да 30 сакавіка 1923 г. уключна, хаця-б кара за іх была прысуджана пасьля гэтай даты.

Арт. 2 кажа, што амнэстыя датыча праступленьняў, падлегаючых веданьню як звычайных, так і ваенных судоў, а так-сама адміністратыўных уладаў.

Згодна з арт. 3 амнэстыя ня будзе стасавацца да праступленьняў:

а) шпіёнства, альбо іншай праступнай дзейнасьці шкоднай для Польскай Дзяржавы, а карыснай для іншай дзяржавы, альбо ў паразуменьні з асобай, якая вядзе дзейнасьць у інтарэсе чужой дзяржавы;

в) праступленьняў, выяўляючых імкненьне да распаўсюджываньня прынцыпаў камуністычнага ладу, альбо да аблягчэньня ўвядзеняня ў Польскай Рэспубліцы такога ладу, калі праступніку ў мамэнт праступленьня мінула 17 гадоў;

с) сьвядома фальшывага абвінавачаньня перад уладамі быўш. заборчых альбо іншых чужых дзяржаў у праступленьнях, зробленых на шкоду гэтых дзяржаў, альбо іх аружнае сілы, альбо няпрыхільнае становішча адносна гэтых дзяржаў;

d) сумыснага пазбаўленьня жыцьця чалавека, цяжкага скалечаньня альбо пазбаўленьня здароўя;

е) разбою і грабежства; і цэлы рад другіх праступленьняў угалоўнага характару.

Арт. 5 устанаўляе разьмер памяншэньня кары за праступленьня падлягаючыя амнэстыі.

Арт. 6, у межах, азначаных у гэтай уставе, пушчаецца ў няпамяць і даруюцца праступленьні, вынікаючыя выключна альбо ў пераважнай меры з прычын нацыянальных, палітычных, рэлігійных, грамадзкіх, альбо грамадзка-гаспадарчых.

# „Бунт проці Бога“.

Запраўды, „бунтам проці бога“ можам назваць той процірэлігійны рух, які шырокай хваляй разьліўся па ўсей Савецкай Беларусі.

Рух гэты зьяўляецца не самастойным, а узьняўся, як адзін з мамэнтаў у агульна-савецкім паходзе проці старых рэлігійных традыцыяў. Ен у роўнай меры выступае проці ўсіх рэлігійных кірункаў, зачыняючы і аддаючы да ўжытку культурных установаў і работніцкіх клюбаў і праваслаўныя царквы, і каталіцкія касьцёлы, і жыдоўскія сынагогі.

Сацыяльная рэвалюцыя, як і некалі вялікая француская рэвалюцыя, разьбівае ўсе аўтарытэты, ўсе перажыткі старога ладу. Старарэжымнае дзяржаўнае жыцьцё, так сама, як у гэты мамэнт жыцьцё Польшчы, цесна зьвязана з царкоўнасьцяй. І гэта ў свой чарод выклікае ў тварцоў новага ладу асабліва варожыя адносіны да царквы наагул, а разам з тым і да таго, на чые імя называецца царква: да **ідэі бога**.

Савецкая ўлада стараецца выкараніць старую ідэю бога з узгадаваньня новых пакаленьняў, з школаў, з учэбнікаў. Нас паведамляюць аб такіх фактах рупнасьці цэнзуры, як канфіскацыя дужа пекнага выданьня школьнае кніжкі да чытаньня за тое, што тамака адзін раз успомнена імя бога — і то ў народнай прыказцы: „праўда хоць груба, ды богу люба“....

Ужываньне слова „бог“ абсалютна забаронена.

Побач з антырэлігійнымі працэсіямі, з карыкатурамі на сьвятых, творыцца спэцыялная літэратура, якая мае на мэце разьбіваць аўтарытэт бога. І гэта выклікае ў нашай памяці некалькі мамэнтаў з нашае старое, даваеннае літэратуры.

Дый ня толькі з нашае, беларускае: нам успамінаецца „бунт проці бога“ у найвялікшым па сваей сіле творы Адама Міцкевіча—імправізацыі яго ў III часьці „Дзядоў“, калі паэт, узбураны тымі крыўдамі, што бог судзіў быў польскаму народу, адкідае справядлівасьць і міласэрдзе бога і кліча:

То мана, што крыніца Любві—у Табе:
Ты—толькі Мудрасьць адна!....

Такое-ж „бунтарства“ бачым у творах найвялікшага польскага паэта сучаснасьці, Высьпянскага, а Ян Каспровіч кідае горкія словы ўпекі валадару сьвету, што „пыл зорак перасыпывае ў сваей залатой кляпсыдры“ і невядома на што „плодзіць жыцьцё“, якое павінна клясьці стварыцеля...

Бунт проці крыўды, якая пануе на сьвеце, даводзіць і цэлы рад беларускіх паэтаў да „бунту проці бога“, каторы ня хоча, ці ня можа зьніштожыць, перамагчы зло.

Храналягічна першым у гэтым радзе зьяўляецца беларускі рэвалюцыянер-паўстанец **Кастусь Каліўнэўскі**, дзеяч 1863 году. З агульнага тону яго пісаньняў можна судзіць, што Каліноўскі быў чалавекам веручым у бога. Але яго перадсьмертныя перажываньні ў вастрозе, тая кара сьмерці, якую прысудзілі яму за нязвычайна сільную любоў да свайго сярмяжнага беларускага народу, тая цяжкая пакута, каторую бяз ніякае віны цярпеў гэны народ і каторай перамагчы ня здолелі ўсе высілкі лепшых людзей нашага краю,— усё гэта выклікае ў апошні перад сьмерцяй мамэнт страшэнна горкі, безнадзейны настрой у Каліноўскага. Бог пакінуў яго, яўна адвярнуўся ад тае справы, за якую Каліноўскі і тысячы другіх ідэалістаў аддалі свае жыцьцё.... Бог „за нашу праўду“ стаў нас караць.... Бог спрадвеку судзіў нам згінуць.... Але вера ў „нашу праўду“, у справядлівасьць вызваленчае ідэі ў Каліноўскага такая магутная, такая глыбокая, так яго захоплівае, што ён у перадсьмертным вершу-разьвітаньні гаворыць:

Калі за нашу праўду бог нас стаў караці
Дый у прадвечнага суду вялеў прападаці,—
То мы прападзем марна, а праўды ня кінем,
Хутчэй неба і шчасьце, як праўду абмінем!....

Так чалавек веручы, зьняверыўшыся ў перавазе дабра над злом, праўды над крыўдай, гатоў у мінуту сьмерці адрачыся збаўленьня душы, гатоў адрачыся шчасьця вечнага і самога бога — дзеля трыумфу „нашае праўды“.....

Вуснамі Каліноўскага прамаўляе пачуцьцё нацыянальнае—патрыатычнае. Другі з чароду паэт-„бунтар“, **Мацей Бурачок**, стаіць на чыста сацыяльным грунце, калі наракае на бога, што той „ня роўна дзеле“ (у „Дудцы беларускай“), калі ад імя беларускага селяніна кідае богу горкі жаль свой: ён шкадуе, што яму дадзены дар слова, бо слова праўды астаецца пустым гукам, — шкадуе, што яму дадзены

# Маленькі фэльетон.

## Плёткі.

Або сястрыца, Сакатуха, каб ты чула, каб ты ведала, што мне намалола суседка Брахуха, вось напляла плётак, дык ні словам ня выскажаш, ні пяром не напішаш. Ужо я на што моцны імпэт маю ў языку, але з Брахухай, дык куды там. Часамі як задасі пытлю свайму мужыку—сьвет беднаму ня міл стане. А Рамусёнак, што вучыцца у беларускай школе, дык кажа. што аб маім языку паэт, які быў у пекле верш склаў, быццам там чэрці мой язык і скрабуць і пякуць, і ніяк да бела давясьці не магуць. І нічога, рагатыя, ня зробяць, бо язык здаровы, дык і чырвоны. Гэта ім ня панскі язык, якія, каб рязвесяліць сваё вечнае гультайства, дык напхнуцца рознай слодычы, а тая і сядзець каменем у жываце ну дык і нястраўнасьць, а ад нястраўнасьці язык белы.

А казала Брахуха вось аб чым. Яе Баўтрук папаўся раз у лапы паліцыі, а тая, па свайму звычаю так адластажыла яго, што няшчасны ні сесьці ня можа, ні стаяць. А гэты самы Баўтрук, разумееш, у часы выбараў кінуў картачку за пястоўца ці вызваленца, не-ткі за пястоўца і вось па дурнаце сваей ды пажалься гэтаму пястоўцу аб сваей бядзе, бо цяпер, кажуць, можна кожную бяду ўзваліваць на Сойм. А той на Баўтрука калі вышчырыцца зьверам, што ты, кажа, пхнеш сваё нямытае рыла, ёсьць тут час разьбірацца з тваімі мужычымі справамі. Ты, кажа, быў патрэбны на выбарах, а цяпер сядзі і ня рыпайся, каб твайго тут ні слуху ні духу. Калі, кажа, набілі, дык мусіць было за што, а калі было за што, дык і добра што пабілі. Глядзі, каб больш не перабіваў нам важныя справы рабіць.

А справы гэтыя, Сакатушка, і сапраўды важныя, бо цар Мікалай, што калісь палякаў гнаіў па вастрогах, біў ды вешаў іх, сядзіць цяпер у Варшаве, але так ціханька, што аб ім ніхто і ня ведае. Палякі даравалі яму ўсе свае крыўды бо, кажуць, як мы цяпер пабачылі, дык і варта нам было, добрыя кажуць мы цацы. Ды ня толькі даравалі, але абяцаюць памагчы бальшавікоў ізноў маскалямі парабіць—ня дай Бог што будзе.

Ведама-ж што груган гругана далёка чуе, вось і аб гэтым дачуліся іншыя каралі ды зьляцеліся ў Польшчу падзякаваць за добры хрысціянскі ўчынак, за дараваньне старых крыўд. Быў румынскі кароль, францускі генерал—куды важней за караля, а можа яшчэ хто быў, скуль нам ведаць і была ў іх нарада, на якой пастанавілі надалей прызнаць Польскую Рэчпаспалітую прыстанішчам для каралёў і генаралаў, бо яна сваім шчырым і пышным прывітаньнем даказала як ніхто іншы сваю да іх пашану. Вось як сястрыца.

А ці ты чула, што наш пасол вярнуўся дамоў, кажа, што Сойм распусьцілі на лета, але ты ня вер—распусьцілі, бо ўжо не патрэбны—цяпер будзем выбіраць караля. А пасьля... што-ж пасьля—ды яна шмат аб чым брахала і я ёй веру не дала-б, але я цяпер так пераплютала яе і сваё, што і сама не разьбяру дзе праўда, а дзе мана.

**Шчабятуха.**

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## З Віленскага Жыцьця.

Выпушчаны пад залог вучыцел Міхась Лапіцкі 2.000.000 п. м. і Янка Мач 1.000.000 п. м., якія былі арыштаваны яшчэ ў восьні гэтага году.

1-га ліпня адбыўся у Вільні збор ахвяр на бедных беларускіх дзяцей. Ня гледзячы на заклік арганізатараў збору беларускае грамадзянства гор. Вільні дужа холадна адняслося,—а гэта яму ганьба. Трэба памятаць, што калі мы самі сабе не паможым, дык ніхто нам не паможа.

У Коўні выдавецтвам „Асьвета“ выдадзена „Дудка беларуская“ Ф. Багушэвіча з партрэтам аўтара і устўпам Я. В. і „Сьпявак Блондэль“ англійская лягенда, пераклад В. Л. выданьне міністэрства беларускіх спраў у Літве.

З вонкавага боку кніжкі робяць дужа добрае ўражаньне.

**Акт вечар.** У нядзелю 8 ліпня ў залі Драматычнае майстроўкі, адбудзецца акт-вечар абітур'ентаў Віленскае Беларускае Гімназіі. Пасьля ўрачыстага паседжаньня Пэдагагічнай Рады Гімназіі будзе пастаўлена „Лес шуміць“, жывыя абразы і багаты канцэртны аддзел. Па сканчэньню праграмы танцы да раніцы.

Уваход на вечарынку толькі па рэкамэндацыі абітур'ентаў і сяброў пэдагагічнае Рады Гімназіі. Пачатак праграмы а $8^{1}/_{2}$ г. ўвечары.

Студэнт Грынкевіч пераклажыў на беларускую мову з украінскага пьесу В. Самійленко „У Гайхан Бея“ сатыра на 2 дзеі. Пьесу гэтую бязумоўна трэба было-б надрукаваць, каб выкарастаць яе для пастановак, бо па зьместу яна дужа падходзіць да сучаснасьці.

### Арышт быушага беларускага пасла Уладзімера Каліноускага.

1-га ліпня ў Варшаве сыскным агентам быў затрыманы быўшы пасол Ул. Каліноўскі, якому было заяўлена, што яго па загаду Ваўкавыскага Старасты трэба даставіцць у распаражэньне такога. Каліноўскі разам з гэтым агентам быў прывезены ў Ваўкавыск, дзе стараста зьняў з яго дапрос, трымаючы на дапросе некалькі гадзін. Пасьля Каліноўскі быў дастаўлены пад паліцэйскім канвоем у вастрог, дзе і цяпер сядзіць.

Прычына арышту да гэтага часу ня выясьнена.

## З Менску.

### Гастролі трупы Бел. Дзярж. Тэатру.

9 чэрвеня трупа Беларускага Дзяржаўнага Тэатру выехала ў гарады ўсходнай Беларусі. Трупа пабывае ў Гомлі, Смаленску, Вітабску, Магілеве, Оршы і інш.

Падобран лепшы рэпэртуар беларускай сцэны, як: „На Купальле“, „Машэка“, „Жрэц Тарквіні“, „Гымн Працы“ і інш.

Паездка запягнецца каля шасьцёх тыдняў.

### Становішча пасеваў.

(Бортніцкая в., Бабруйск. пав.).

Як спачатку добра выглядалі яравыя пасевы, так цяпер зьяўляецца некі страх, каб лішняя вада не сапсавала расьлін. Часткаю гэта ўжо заметна. Шмат позных пасеваў у нізкіх мяйсцох прышлося зноў адворываць. Жыта досыць добрае, толькі пракідаюцца белыя каласы.

Гародніна іздзе пакуль што добра.

**М. Любча**, Навагрудчына.

Недалёка ад м. Любчы пасяліліся некалькі вайсковых польскіх асаднікаў на прызначаных ім уладай „działkach ziemi“ з распарцэляванага фальварку. На памятку свайго пасяленьня тут асаднікі на ўзгорку паставілі высачэнны драўляны крыж з напісам „Na pamiątkę osady“. Праз некалькі дзён крыж ад невядомых прычын паваліўся. Няма ведама, ці то грунт быў заслабы для надта высокай тэй памяткі, ці хто падрыў, а можа і падкапаў, ці то можа дажджы падмылі зямлю наўкола,—але крыж паваліўся. Гэты неспадзяваны выпадак так напалохаў асаднікаў, якія прыехалі сюды з-над Віслы, што яны заraz-жа паведамілі аб гэтым павятовую ўладу. І ўлада нічога іншага не знайшла зрабіць, рэагуючы на гэты, здавалася-б, такі незначны выпадак, як раздаць усім гэным асаднікам вайсковыя стрэльбы і набоі.

# Дописы.

## Беларусы у Амэрыцы.

(ад уласнага карэспандэнта)

### Аб беларускай газэце.

Паміж „Незалежным Таварыствам“, якое з'яўляецца ўласьнікам газ. „Свабодная Россия“ а Беларускім Камітэтам вядуцца перагаворы аб куплі маемасьці гэтай газэты. Калі перагаворы памысна закончацца—беларусы ў Чыкаго будуць выдаваць тыднёвую газэту.

### Сход беларусаў у Чыкаго.

У суботу 9 чэрвеня ў Чыкаго адбыўся сход беларусаў. Былі заслуханы такія даклады:

1. „Апошнія весткі з Беларусі“ Жукоў.
2. Аб беларускім з'ездзе ў Чыкаго на 1-га верасьня—Міхайлоўскага.
3. „Аб палітычна-грамадзкіх мэтах белерусаў у Амэрыцы“. А. Змагара.

Сход прайшоў пры вельмі патрыатычна-нацыянальным настрою. Было пастаноўлена ўтварыць: „Фонд вызваленьня Беларусі“, Заснаваць аддзелы Беларускага Камітэта як у Чыкаго, так і ўва ўсім штаце Уллынойс. Склікаць надзвычайнае паседжаньне выдатных працоўнікоў для зьдзейсьненьня хутчэйшай помачы Старой Бацькаўшчыне на 15 чэрвеня.

# Бібліяграфія.

### Поэма Якуба Колас „НОВАЯ ЗЯМЛЯ“.

Выдадзеная ў Менску, 1923 г. стр. 262.

ЗЬМЕСТ. Лясьнікова пасада. Раніца ў нядзельку. За сталом. На першай гаспадарцы. Пярэбары. Каля зямлянкі. Дзядзька-кухар. Сьмерць лясьнічага. Новы лясьнічы. На панскай службе. Дзедаў човен. Сэсія. Падгляд пчол. Дарэктар. Начаткі. Вечарамі. Воўк. Зіма ў Парэччы. На рэчцы. Коляды. Таемня гукі. На глушцовых токах. Панская пацеха. Вялікдзень. Летнім часам. Агляд зямлі. Па дарозе ў Вільню. Дзядзька ў Вільні. На Замкавай гары. Сьмерць Міхала.

# Пісьмо у Рэдакцыю.

Паважаны гр. Рэдактар.

Будзьце ласкавы не адмоўце зьмясьціць у Вашай газэце справаздачу з вечарыны, ладжанай 10-га чэрвеня г. г. Бацькаўскім Камітэтам Біленскай Беларускай Гімназіі.

Чыстага даходу ад вечарыны 466.550 м.
Сабрана сябр. К-ту па падпісных лістох . . . 865.550
разам 1.343.100

Гэтая сума заплачана за праванавучаньне незаможных вучняў у Гімназіі пад квіт. № 1715 ад 15—VI.

Бацькаўскі Камітэт складае шчырую падзяку за зложаныя ахвяры: Архіяпіскапу Феадосу—25.000 м. Беларускаму Грам. Сабраньню—100.000 м., гр. Паслу Раку-Міхайлоўскаму—50.000 м., гр. А. Будзьку—50.000 м., Трахневічу—50.000 м., Дырэктару Трэпко—30.000 м., Т. Бунімовічу—25.000 м., пекарні Урванава — 57.000 м., П. Дылісу—15.000 м., адв. Казлоўскаму — 15.000 м., адвак. Савінскаму 15.000 м., адв. Врублеўскаму—10.000 м., Рак-Міхайлоўскай—10.000 м., Петровай—10.000 м., каапэратыве „Помоц“ 20.000 м., Карабейнікову—20.000 м., і ўсім іншым ахвярадаўцам, а так-сама і ўсім прыняўшым чынны ўдзел у пастаноўцы спэктаклю.

*Бацькаўскі Камітэт Вілен. Белар. Гімназіі.*

# Наша пошта.

**У Рэдакцыйную калегію газэты „Сав. Беларусі“.** Чаму ў сваей газэце ўжываеце слова „Расея“, а не С.С.С.Р.? Як нам вядома, апошняя назова была ўстаноўлена на апошнім зьездзе саветаў. Пасьля, няўжо Белтрэстдрук да гэтага часу ня змог да загаловачных шрыфтаў даліць літар з надрадкавымі знакамі, каб ня было такіх недарэчных загалоўкаў, як самалет замест самалёт, флет замест флёт, настаунік замест настаўнік, параунаучы замест параўнаўчы і г. д. Асабліва трудна ў гэтым разабрацца вясковаму чытачу.

# Аб усім.

### Даслужыўся.

Як мы даведаліся з пэўных крыніц правакатар Ленкевіч, вядомы па Беластоцкаму працэсу прагнаны са службы ў тайнай паліцыі, як быўшы чэкіст і маніцца выехаць у Амэрыку да свайго роднага дзядзькі.

### Як зрабіць замену лясоу.

Надта часта здараецца, што сялянскі лес знайходзіцца вельмі далека ад вёскі, а ў гэты самы час пад самым бокам ёсьць казёны. Ведама, што ў гэткіх выпадках вельмі добра было-б зрабіць замену. Дзеля таго, што гэта можна зрабіць, але парадак гэтае замены няведамы сялянам, дзеля чаго мы і друкуем тое, што было сказана ў Міністэрстві Дзяржаўнага Скарбу.

Каб зрабіць замену лясоў трэба зьвярнуцца да мейсцовага Лясьнічаства і Лясьнічаства абглядте сялянскі і казённы лес, які мае быць заменяны, робяць ацэнку і дагаварываюцца аб драбязгох замены. Пры гэтым робіцца адпаведны акт, які перасылаецца да Акружнога Упраўленьня казёных лясоў, гэтае Упраўленьне адмаўляе, а калі ёсьць патрэба пацьверджае гэты акт і потым са сваімі адзнакамі перасылае гэты акт у Міністэрства. Міністэрства забірае цэлы пук гэткіх спраў і перасылае на пацьвярджэньне ў Сойм на васеньнюю сэсію.

# Курс на грошы.

**Варшава 2 ліпня.**

| | |
|---|---|
| Доляры . . . . . . . . . | 104.000 |
| Англійскія фунты . . . . | — — — |
| Нямецкая марка . . . . . | 0.60 |
| Франкі . . . . . . . . . | — — |
| 10 руб. золатам . . . | 665.000 |

# Увага!

**Белрусы, якія едуць у Амэрыку зьвертайцеся там па усіх справах да Беларускага Камітэту па адрасу: Whiterussian Kommitee 1632 N. Robeystr. U. S. of America. Chicago Hl.**

Газэта высылаецца усім падпішчыкам рэгулярна, апрача канфіскаваных намяроу.

Хто з падпішчыкау не атрымлівае, просім паведамляць аб гэтым адміністр. „Нашага Сьцягу“.

Рэдактар-выдавец **Я. Лагіновіч.**

Друкарня **Левін і Сын**, Нямецкая 22